www.nv-online.info

**№ 29 (3770)**

12 красавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

## Амаль маленькі водпуск

***Савет міністраў прыняў рашэнне аб пераносе рабочых дзён у 2013 годзе.***

Так, працоўны дзень з пятніцы 10 мая 2013 года пераносіцца на суботу 18 мая бягучага года.

Выхаднымі днямі будуць: 1 мая (Свята працы), з 9 мая па 12 мая і 14 мая (Радуніца, дзень памінання нябожчыкаў).

Пры гэтым арганізацыям дадзена права з улікам спецыфікі вытворчасці (работы) ажыццяўляць перанос рабочых дзён у іншым парадку ў адпаведнасці з заканадаўствам.

# Некаторыя апазіцыйныя палітыкі сышліся лоб у лоб, высвятляючы, якую тактыку павінна прыняць Еўропа ў адносінах да Беларусі. Паліваючы брудам адзін аднаго, яны забыліся пра галоўнае — штодзённую работу з людзьмі.

*(Падрабязнасці — на 2-й старонцы.)*

## Десять миллионов для молодых ученых

*Объявлены лауреаты премии Национальной академии наук Беларуси (НАНБ) имени академика Бориса Степанова, посвященной 100-летию выдающегося белорусского физика.*

Первый в истории страны конкурс на соискание премии имени Степанова был инициирован в январе этого года президиумом Академии наук и проводился отделением физики, математики и информатики.

Как сообщает пресс-служба НАНБ, за цикл работ в области нелинейной оптики по теме *"Вынужденное комбинационное рассеяние: физические основы и приложения"* данная премия присуждена главному научному сотруднику Института физики НАНБ имени Степанова **Павлу Апанасевичу**, а также председателю Научного совета Белорусского республиканского фонда фундаментальных исследований **Валентину Орловичу.**

Согласно положению о премиях, им полагается 15 базовых величин.

Лауреатами юбилейной премии для молодых ученых за цикл работ в области квантовой физики по теме *"Квантово и пространственно структурированные фотонные пучки и среды: новые эффекты и возможности"* стали доцент кафедры теоретической физики БГУ **Андрей Новицкий,** научный сотрудник Института физики НАНБ имени Степанова **Денис Новицкий** и аспирант этого института **Александр Михалычев**.

Премия для молодых ученых — 100 базовых величин.

**ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ**

## Міліцыянер не пускаў Валерыя Карбалевіча ў нямецкую амбасаду

*Як высветлілася, не таму, што палітолаг занесены ў нейкую адмысловую базу тэрарыстаў, а таму, што... у яго не было пры сабе пашпарта.*

*Чацвёра супрацоўнікаў амбасады выйшлі на вуліцу, каб патлумачыць "пільнаму" міліцыянеру, што Валерый Карбалевіч запрошаны асабіста амбасадарам, што яны яго добра ведаюць, што, увогуле, задача міліцыянера ахоўваць амбасаду, а не вырашаць, каго прапускаць, а каго — не...*

"*Калі б не супрацоўнікі амбасады, усё магло б абярнуцца інакш,* — тлумачыць Карбалевіч. — *Тым больш што міліцыянер пагражаў, што выклікае патрульную машыну. Мяне маглі б завезці ў міліцыю, як ён і абяцаў, "для высвятлення асобы". Сам гэты супрацоўнік міліцыі абсалютна шчыра казаў, што выконвае інструкцыю. Але якое ж гэта дзікунства, калі ў XXI стагоддзі ў еўрапейскай краіне прадстаўнікі сілавых устаноў перапісваюць пашпартныя звесткі тых, хто наведвае амбасады! Зразумела, што гэта робіцца з мэтай кантролю і псіхалагічнага ўціску".*




Валерый Карбалевіч распавёў, што амбасадар выйшаў з ім за тэрыторыю амбасады, каб асабіста пераканацца, што яго госця не затрымаюць.

Гісторыя з Валерыем Карбалевічам завяршылася без складання пратаколаў і судовых разбіральніцтваў. Хаця магло быць і горш.

Дарэчы, практыку перапісваць наведвальнікаў амбасад можна з поспехам удасканальваць. Напрыклад, пачаць перапісваць тых, хто наведвае дарагія рэстараны, потым тых, хто заходзіць у дарагія аўтакрамы, і г.д. Шкада толькі, што такая статыстыка выкарыстоўваецца выключна ў службовых мэтах. А то якія б каштоўныя даныя магла даць наша краіна для даследчыкаў сацыялагічных навук! Цэлы спектр — расклад па ўзроставых, палавых групах насельніцтва, прафесійнай прыналежнасці...

Можа, усё гэта яшчэ наперадзе?

**Любоў ЛУНЁВА.**

**ПАД ГРАДУСАМ**

## Яшчэ трошачкі — і вясна?

*Беларусы ўздыхаюць: няўжо пачатку нармальнай вясны мы дачакаемся толькі бліжэй да лета? Пакуль аптымістычныя прагнозы замест сіноптыкаў робяць камунальшчыкі — абяцаюць адключыць ацяпленне ў жылых дамах ужо на наступным тыдні.*

Адключанае ацяпленне можа значыць толькі адно: цёплае надвор'е прыходзіць у Беларусь, каб нарэшце ўсталявацца надоўга. Згодна з новымі нормамі, цяпло ў дамы перастане паступаць, калі тры дні запар сярэднясутачная тэмпература ўтрымаецца на ўзроўні +8°C.

Згодна з прагнозамі, сёння, **у пятніцу 12 красавіка,** у краіне будзе пахмурна, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Ноччу і раніцай у асобных раёнах туман. Тэмпература паветра па краіне ноччу ад +1°C да +6°C, максімальная днём ад +7°C да +13°C, па поўдні да +17°C.

**У суботу 13 красавіка** на большай частцы краіны таксама пройдуць кароткачасовыя дажджы. Днём у некаторых раёнах можна дачакацца навальніцы. Мінімальная тэмпература паветра ноччу ад +2°C да +8°C, максімальная днём ад +9°C да +15°C, па поўдні да +17°C.

Падобнае надвор'е чакаецца і ў нядзелю **14 красавіка.** Таксама будзе пахмурна і мокра — месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы — ад +1°C да +7°C цяпла, днём — +7...+12°C, па поўдні да +16°C.

**ТЫМ ЧАСАМ**

## На наступным тыдні да +20!

*Сіноптыкі прадказваюць добрае надвор'е. Ці затрымаецца яно надоўга?*

Згодна з прагнозамі, надвор'е ў краіне будзе фарміраваць антыцыклон, які перамяшчаецца з Заходняй Еўропы на цэнтральныя раёны еўрапейскай Расіі праз Беларусь. У панядзелак днём будзе ад +11°C да +17°C, у аўторак — ад +13°C да +18°C, па захадзе краіны — да +20°C.

У сераду на большай частцы тэрыторыі краіны захаваецца сухое надвор'е. Толькі ў паўночназаходніх раёнах чакаюцца кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ўначы — ад +3°C да +9°C, днём — ад +11°C па паўночным захадзе да + 20°C па паўднёвым усходзе. У чацвер у многіх раёнах пройдуць дажджы, і надвор'е сапсуецца.

**Сяргей ШЭЛЕСТ.**

**ДЫПКУР'ЕР**

## У Мінск вернецца Часовы павераны Швецыі

*Праўда, наўрад ці гэта будзе былы амбасадар Стэфан Эрыксан.*



*"Пасля некаторых складанасцяў мы неўзабаве адправім Часовага паверанага ў наша пасольства ў Мінску"*, — паведаміў у сваім твітэр-акаўнце міністр замежных спраў Швецыі **Карл Більт**.

*"Па выніках праведзеных па ініцыятыве шведскага боку двух раўндаў кансультацый паміж МЗС беларускім бокам прынята станоўчае рашэнне адносна просьбы шведскага боку аб акрэдытацыі ў Мінску Часовага паверанага ў справах Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь"*, — цытуе БелаПАН намесніка начальніка ўпраўлення інфармацыі МЗС **Марыю Ваньшыну.**

Нагадаем, што Пасольства Швецыі ў Мінску цалкам спыніла працу 30 жніўня 2012 года. Шведскія дыпламаты пакінулі Беларусь, як таго запатрабавалі беларускія ўлады. Аналагічныя дзеянні былі зроблены і беларускім бокам.

Беларуска-шведскі канфлікт разгарэўся пасля таго, як 1 жніўня ўлады Беларусі апавясцілі Швецыю пра спыненне акрэдытацыі амбасадару **Стэфану Эрыксану** *(на фота)*. Дыпламата абвінавацілі ў дэструктыўнай дзейнасці.

У кастрычніку мінулага года кіраўнік шведскага МЗС паведамляў, што Швецыя вядзе перамовы аб вяртанні ў Мінск свайго амбасадара.

Дарэчы, Стэфан Эрыксан і цяпер цікавіцца тым, што адбываецца ў Беларусі. Прычым ён ведае не проста агульную інфармацыю аб апошніх падзеях, але і арыентуецца ў дробязях.

**Вера ВІР.**

**ТЭНДЭНЦЫІ**

## За адну паездку ў Літву беларускія турысты трацяць каля 450 долараў

*Беларусы лідзіруюць у спісе турыстаў, якія найбольш часта наведваюць Літву. Пра гэта сказаў пасол Літвы ў Беларусі **Эвалдас Ігнатавічус** на прэзентацыі літоўскіх турыстычных магчымасцяў у Мінску.*

Так, у мінулым годзе Літву наведалі каля 380 тысяч турыстаў з Беларусі, што на 1% больш у параўнанні з 2011 годам.

Дырэктар Дэпартамента па турызме Літвы **Раймонда Бальнене** патлумачыла, што, магчыма, у гэтым годзе колькасць беларускіх турыстаў павялічыцца да 400 тысяч. Яна таксама канкрэтызавала, што ў сярэднім за адну паездку беларускія турысты трацяць на літоўскай тэрыторыі каля 450 долараў і спыняюцца на 2,5 ночы.



Прычым на турыстычным патоку з боку Беларусі не адбіваецца сезоннасць — колькасць турыстаў, што наведваюць Літву, нязменна вялікая на працягу ўсіх 12 месяцаў. Адзінае, што рост назіраецца ў перыяд навагодніх святаў і летам.

### Чаго едуць?

*Па літоўскай статыстыцы, каля 41% беларусаў наведваюць сваякоў і сяброў.*

*24% едуць з мэтай бізнесу.*

*20% — на шопінг.*

*Многія прыязджаюць для забаў і правядзення вольнага часу.*

*Сярэдні ўзрост беларускага турыста, які цікавіцца літоўскай культурай і гісторыяй, ад 25 да 50 гадоў. Прычым асноўная маса турыстаў прыязджае на аўтамабілях.*

**Аліна ВЕТРАВА.**

**ЧУЛІ?**

## Міліцыю на стадыёнах заменяць сцюарды

Пра гэта сказаў банкір, старшыня Беларускай федэрацыі футбола **Сяргей Румас.**

"*Мне не падабаецца, калі на мяне супрацоўнік міліцыі глядзіць так, нібы я нешта парушыў*, — цытуе Румаса БелаПАН. — *Я іду ў добрым настроі глядзець футбол. Але гэта наша рэчаіснасць".*

Па словах Румаса, БФФ працягне навучанне сцюардаў з улікам ранейшых памылак, калі былі арганізаваны курсы, а людзі на стадыёны працаваць не пайшлі. Кіраўнік федэрацыі заявіў, што ўскладае вялікія надзеі на чалавека, адказнага ў БФФ за працу з заўзятарамі.

**ГУЧНАЯ СПРАВА**

## Здароўе Сашы Варламава ўсё больш пагаршаецца

Мадэльер ужо даўно мае праблемы са спінай, ён перанёс некалькі аперацый на пазваночніку. Нядаўна ў суд для яго выклікалі "хуткую" — у абвінавачанага дыягнаставалі віруснае захворванне.

Нягледзячы на дрэннае самаадчуванне, у судовым працэсе Варламаў удзельнічаць не адмаўляўся. У апошні час судовыя пасяджэнні па гэтай доўгай крымінальнай справе "ажывіліся" — ідзе допыт супрацоўнікаў Белдзяржуніверсітэта. Для дзяржабвінаваўцаў гэта вельмі важны эпізод, бо, па версіі следства, дзеянні Варламава нанеслі асабліва буйную шкоду менавіта БДУ.

Згодна з тым, што паведамлялі сведкі ў зале суда, Саша Варламаў хоць і займаўся справамі мадэльнага агенцтва пры БДУ, але фармальна яго кіраўніком стаў не адразу. Варламаў нават казаў аб тым, што ў камандзіровачных яму адмаўлялі, бо ён не быў супрацоўнікам навучальнай установы.

Суд над Варламавым ідзе ўжо некалькі месяцаў, і хуткага завяршэння справы чакаць не варта. У крымінальнай справе 150 лістоў, а сведкамі праходзяць 346 чалавек.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

**ЗАКУЛІССЕ**

## Алег Румо ездзіў на дзень нараджэння былога шэфа ізраільскай разведкі

*Пра гэта кіраўнік Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра трансплантацыі органаў і тканак распавёў журналістам.*



Па словах доктара, экс-кіраўнік МАСАДа, якому ў Беларусі правялі аперацыю па перасадцы печані, адчувае сябе добра: *"Я быў у яго на дні нараджэння, ён запрашаў мяне ў Ізраіль у лютым гэтага года. Дзякуй Богу, у яго ўсё добра".*

### ТЫМ ЧАСАМ

У мінулым годзе больш за тысячу іншаземцаў атрымалі медыцынскую дапамогу ў 9-й Клінічнай бальніцы г.Мінска, на базе якой функцыянуе РНПЦ трансплантацыі органаў і тканак.

*"Гэта былі пацыенты з больш як 40 краін свету — СНД, Ізраіля, Японіі, Лівана, Сірыі, Латвіі, Літвы, Балгарыі, Кіпра і іншых",* — гаворыць Румо.

Паводле яго слоў, за мінулы год 9-я бальніца зарабіла на аказанні платных медпаслуг замежнікам больш за 3 мільёны долараў.

**КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА**

## У Барысаве затрымалі Залатую ручку

*У Барысаве супрацоўнікі крымінальнага вышуку мясцовага РУУС і аператыўна-пошукавага аддзела УУС Мінаблвыканкама затрымалі зладзейку па мянушцы Залатая ручка, якая спецыялізавалася на кішэнных крадзяжах.*

У Барысаўскі РАУС звярнулася 50-гадовая мясцовая жыхарка з заявай аб тым, што ў паштовым аддзяленні па вуліцы Працы, пакуль яна стаяла ў чарзе, невядомы выкраў з яе сумачкі 1,6 млн рублёў.

Аператыўныя супрацоўнікі вывучылі інфармацыю з камер відэаназірання і высветлілі, што крадзеж учынілі дзве жанчыны. Яны стаялі ў чарзе адразу за ахвярай.

Пакуль адна з іх прыкрывала ад залы другую, тая адкрыла сумачку, выцягнула грошы, схавала іх у рукаў, а затым пераклала ў кішэню. Пасля гэтага зладзейкі выйшлі з чаргі і зніклі.

На відэа аператыўнікі пазналі 38-гадовую жыхарку Барысава, вядомую ў асяроддзі мясцовага крыміналітэту як Залатая ручка. Жанчына раней ужо была тройчы судзімая за крадзяжы. Апошні раз яна вызвалілася ў 2010 годзе.

Злачынца расказала, што выкрадзеныя грошы патраціла на наркотыкі і спіртное. Распачата крымінальная справа.

КЛІНЧ

# Лоб у лоб

*Дыскусія разгарэлася нежартоўная. Некаторыя апазіцыйныя палітыкі сышліся проста лоб у лоб у спрэчцы за тое, якую тактыку павінна прыняць Еўропа ў адносінах да Беларусі.*



## Пазіцыя Аляксандра Мілінкевіча

Спачатку з'явіўся зварот да Еўрасаюза Аляксандра Мілінкевіча, Уладзіміра Някляева і Алеся Янукевіча пад назвай "Больш Еўропы для Беларусі". Праз некалькі дзён лідар руху "За свабоду" Аляксандр Мілінкевіч на дыскусіі ў Еўрапарламенце наконт ініцыятывы "Еўрапейскі дыялог дзеля мадэрнізацыі Беларусі" асноўныя ідэі аб неабходнасці большага супрацоўніцтва паміж ЕС і Мінскам развіў. Ну і пачалося...

*"Я сапраўды казаў пра тое, што не бачу іншай станоўчай альтэрнатывы дыялогу, што санкцыі (хоць, шчыра кажучы, гэта не санкцыі, а ізаляцыя Беларусі) ні да чаго добрага не прыводзяць: палітвязняў не выпускаюць, страху больш, уплыў апазіцыі менш, праеўрапейскія настроі таксама падаюць",* — пацвердзіў Аляксандр Мілінкевіч.

Акрамя таго, эканамічныя санкцыі, да якіх ЕС заклікаюць некаторыя прадстаўнікі апазіцыі, на думку Мілінкевіча, "проста падштурхнулі б Беларусь у Расію". *"Увесь час паўтараюць, каб Галандыя перастала купляць беларускі бензін. Дык Расія яго купіць, але гэта будзе страта нашага суверэнітэту і незалежнасці",* — лічыць палітык.

Ён перакананы, што Беларусі і ЕС неабходны крытычны і абумоўлены дыялог. *"Гэта значыць, выбудоўваецца пакрокавая дарожная карта. Кожны бок агаворвае, якія бярэ абавязацельствы на сябе: Беларусь — па дэмакратызацыі і мадэрнізацыі, Еўропа — па дапамозе ў рэформах, — растлумачыў Мілінкевіч. — І кожны бок ведае, што калі ён нейкі крок не зробіць, то і іншы спыніцца. Я разумею, што казаць прасцей, чым зрабіць, але ёсць прыклады ў гісторыі, калі гэта атрымлівалася. Таму лічу, што калі мы хочам жыць у незалежнай краіне, то так і трэба дзейнічаць".*

Мілінкевіч таксама адзначыў: "Калі нехта кіруецца толькі помстай Лукашэнку ці свядома альбо несвядома працуе ў расійскай стратэгіі па анексіі Беларусі, тады, вядома, яму трэба заклікаць да санкцый. Лічу, што пара ўжо неяк спыніць гэтыя размовы, шкодныя для Беларусі".

Пры гэтым Мілінкевіч падкрэслівае, што гаворка не ідзе пра тое, каб забыцца пра палітвязняў. *"У ЕС не збіраюцца гэтага рабіць, нават думкі такой няма — адмовіцца ад умовы вызвалення палітвязняў да пачатку дыялогу,* — сказаў Мілінкевіч. — *Гэта значыць, што дыялог можа пачацца толькі тады, калі будуць вызвалены ўсе палітвязні. Вызваляюцца палітвязні — пачынаецца супрацоўніцтва, патрэбнае для краіны. І ніяк інакш".*



## План Саннікава

З рэзкай крытыкай гэтай пазіцыі выступіў былы кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў.

*"Сваю заяву кіраўнікі трох арганізацый — Партыі БНФ, кампаніі "Гавары праўду!" і руху "За свабоду" — назвалі "Больш Еўропы для Беларусі", хоць чытаецца яна як "Хочам легітымную дыктатуру". Менавіта гэтая мэта стаіць за ўсімі слоўнымі практыкаваннямі.*

*Цалкам відавочна, што сёння ў Еўропе зноў спрабуюць вярнуцца да сцэнарыя дыялогу з дыктатарам, які не раз выпрабоўваўся і не раз правальваўся. Некаторыя еўрапейскія палітыкі і чыноўнікі ЕС "моцна стаміліся" адстойваць свае ж прынцыпы свабоды, дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі. Беларускія палітвязні з'яўляюцца ўсяго толькі прыкрай перашкодай на шляху да аднаўлення ранейшых адносін, сутнасць якіх зводзілася да слоўнай крытыкі парушэнняў правоў чалавека, але пры гэтым да нарошчвання дзелавой актыўнасці ў Беларусі пад кантролем дыктатуры. Усё гэта нязменна прыводзіла да ўмацавання дыктатуры і ўзмацнення рэпрэсій".*

"Еўрасаюз заслугоўвае падзякі за сваю пазіцыю ў 2011 годзе і на пачатку 2012 года. Яна была прынцыповай і ратавала жыцці тых, хто знаходзіўся за кратамі за свае перакананні, — адзначае Андрэй Саннікаў. — Нават рэзкія заявы, не кажучы ўжо пра кропкавыя санкцыі, дапамагалі нам выжыць у турмах і калоніях. Аднак сёння мы ўжо даўно не чуем такіх заяў: ні з боку Еўрасаюза, ні з боку асобных дзяржаў. Наадварот, усё больш эмісараў спрабуюць нас супакоіць, пераканаць у тым, што палітвязняў вось-вось выпусцяць. Але нічога не адбываецца. Дакладней адбываецца жахлівы ціск на нашых таварышаў, выбіванне прашэнняў аб памілаванні, псіхалагічнае і фізічнае іх знішчэнне. Адбываюцца таксама гульні са спісамі палітвязняў, у якія ўцягнуліся і беларускія праваабарончыя арганізацыі. Дыктатар, падобна, мае поспех у гандлі жывымі людзьмі", — заявіў лідар "Еўрапейскай Беларусі".

Дарэчы, самога Андрэя Саннікава на дыскусію ў Брусель не запрасілі. Ён лічыць, што гэта не выпадкова.

*"Рашэнне аб аднаўленні дыялогу з дыктатарам некаторымі еўрачыноўнікамі ўжо падрыхтавана. Патрэбны "голас грамадскасці" з Беларусі. І гэты голас не прымусіў сябе чакаць у выглядзе заявы трох аб неабходнасці ўзнаўлення "поўнамаштабнага дыялогу" з дыктатарам. Адразу скажу, што ні "Еўрапейскую Беларусь"* (гэта ініцыятыва, якую Саннікаў узначальвае. — **Рэд.**), *ні нашых непасрэдных саюзнікаў на гэтую сустрэчу не запрашалі і зрабілі ўсё, каб нас там не было",* — сцвярджае Саннікаў.

У сувязі з немагчымасцю прысутнічаць у Брусэлі Андрэй Саннікаў зрабіў "сустрэчную прапанову" Еўрасаюзу:

*"Запатрабуйце неадкладнага вызвалення ўсіх 13 палітвязняў і да іх вызвалення спыніце ўсе адносіны з дыктатурай, прыпыніце гандаль нафтапрадуктамі і імпарт калійных угнаенняў, замарозьце банкаўскія рахункі, не прымайце эмісараў дыктатуры і не адпраўляйце сваіх. Паверце, гэта спрацуе, калі вы сапраўды жадаеце дапамагчы вызваленню палітвязняў".*



## Лябедзька шукае «круглы стол»

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі таксама быў у Брусэлі і сваё выступленне пачаў з агучвання прозвішчаў 13 беларускіх палітвязняў — тых, хто, на думку праваабаронцаў, адбывае пакаранне выключна за свае палітычныя погляды.

*"Асабіста для мяне "больш Еўропы ў Беларусі" — гэта калі ў краіне ёсць парламент і кожны яго дэпутат выбіраецца, а не прызначаецца, — тлумачыць Лябедзька. — Гэта калі эфектыўна дзейнічае прынцып падзелу ўлад і з нейкай рэзідэнцыі суддзі па тэлефоне не падказваюць, які прысуд выносіць па справе. Гэта калі Канстытуцыя мае большую сілу, чым дэкрэт, указ альбо загад. Гэта калі ў краіне няма палітвязняў і чалавек можа, не баючыся, уступіць у апазіцыйную партыю. Гэта калі тэлебачанне, аплачанае ўсімі падаткаплацельшчыкамі, прапануе дыскусію і канкурэнцыю ідэй, праграм, а не адну асобу, адны вусы 24 гадзіны ў суткі..."*

"Хваля дыскусіі, якая адбылася ў Еўрапарламенце, вынесла некаторыя цікавыя дэталі, — падзяліўся Анатоль Лябедзька. — Так, як запэўніваюць еўрапейцы, на сустрэчы еўракамісара Штэфана Фюле з кіраўніком беларускага МЗС Уладзімірам Макеем, якая адбылася ў Тбілісі, міністр запэўніў камісара, што нашы ўлады гатовы весці дыялог па мадэрнізацыі з ЕС. Вось толькі еўрапейскі чыноўнік не ўдакладніў, а дзе тая "лава запасных", што прыгатавана для грамадзянскай супольнасці. Ёсць попыт не на дыялог "Чырвонага дома" і Брусэля аб аўтарытарнай мадэрнізацыі, а на перамовы ўлады і апазіцыі пры пасрэдніцтве адказных міжнародных арганізацый аб правядзенні свабодных і справядлівых выбараў у Беларусі!"

*"Мы прапануем канцэнтраваць увагу і аб'ядноўваць намаганні на тым, што мяняе сітуацыю ў Беларусі, а не кансервуе яе",* — рэзюмаваў Анатоль Лябедзька, прадэманстраваўшы трэці погляд і трэці падыход. І як тут еўрапейцам разабрацца, калі мы самі паміж сабой дамовіцца не можам?

**Алена НОВІКАВА.**

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ



Святлана КАЛІНКІНА

# Майстры імітацыі

**Прыведзеныя выказванні лідараў апазіцыі — гэта толькі вяршыня айсберга. Тое, што хаваецца пад вадой, — куды больш калючыя абвінавачванні. Атрымліваецца, што адны — агенты КДБ, другія — прыстасаванцы, якія баяцца застацца без "грошай на рэвалюцыю", хаця, як некалі Ленін, мараць аб рэвалюцыі з-за мяжы...**

**Адны — купленыя, другія — прадаліся...**

**Жарсці кіпяць, інтэрнэт "узарваўся", ідэйна падзяліўшыся на тусоўкі.**

**Так заўжды бывае ў гарачцы палемікі, таму ў гэтым сэнсе нічога страшнага не адбываецца.**

**Страшнае — іншае.**

**Ніхто нікога не хапае за грудкі, спрачаючыся, да якой заводскай прахадной заўтра пойдзе тая ці іншая партыя, прадстаўнікі таго ці іншага руху.**

**Ніхто не бярэ абавязацельствы сабраць 150 тысяч подпісаў. Не паўмільёна, не мільён! А хаця б тыя ж 150 тысяч пад ініцыятывай, каб у склад Цэнтрвыбаркама і выбарчых камісій розных узроўняў увайшлі прадстаўнікі ўсіх палітычных сіл. І каб выбары сталі выбарамі.**

**Сярод ваюючых апазіцыйных лідараў няма ніякага спаборніцтва ідэй, канцэпцый, праграм, няма ніякіх спрэчак наконт таго, што канкрэтна апазіцыі рабіць тут, у Беларусі.**

**Арганізатарскія і аратарскія здольнасці, энтузіязм і майстэрства публічнай палітычнай барацьбы, смеласць, рашучасць, прынцыповасць і самыя розныя іншыя таленты апазіцыйныя палітыкі дэманструюць па ўсім свеце — у Брусэлі, Варшаве, Вільнюсе, Вашынгтоне, але толькі не дома.**

**Дзе, у якім горадзе, на якім праблемным прадпрыемстве (ці хоць бы побач з яго прахадной) у апошні раз бачылі Аляксандра Мілінкевіча?**

**Якой канкрэтнай працай тут, у Беларусі, апошнім часам адзначылася "Еўрапейская Беларусь" Андрэя Саннікава?**

**Можа, Аляксей Янукевіч з актывам Партыі БНФ нечым асаблівым вызначыліся?**

**Ды яны, бээнэфаўцы, нават самую простую, чалавечую праблему не вырашылі. Як была Ялінка Салаўёва адзінай вучаніцай у беларускамоўным класе ў Магілёве, так і засталася. Хаця гэта дачка кіраўніка магілёўскай абласной арганізацыі Партыі БНФ.**

**Цэлай арганізацыі! Цэлай партыі!**

**Ну збярыце лепшыя сілы! Ну выйдзіце з партыйных офісаў! Гэта ж справа гонару, статусу, прынцыпу. Угаворвайце, пераконвайце, заклікайце, прасіце людзей, але вырашыце гэтую праблему. Каб дзіця вашага ж таварыша не расло "белай варонай", каб хоць з кім магло словам перакінуцца на ўроку.**

**Не выйшлі. Не вырашылі!**

**Напэўна, і тут патрэбна дапамога Еўропы.**

**Была ўнутры Беларусі сур'ёзная, дзейсная кампанія з патрабаваннем вызвалення палітвязняў? Не было.**

**Ёсць прадуманыя, добра арганізаваныя кампаніі хаця б маральнага ціску з патрабаваннямі, просьбамі, парадамі, зваротамі да Аляксандра Лукашэнкі больш не балатавацца ў прэзідэнты, не ператвараць нашу краіну ў падабенства нецывілізаваных дэспатый? Поўная цішыня.**

**Можа, хто тут, у нас, не абстрактна, а на канкрэтных прыкладах з дня ў дзень тлумачыць людзям неабходнасць судовай, палітычнай, эканамічнай рэформаў? Таксама не.**

**Дык хто гэта павінен рабіць? Еўропа? Захад? Амбасады, якія знаходзяцца ў Мінску?**

**Самае лёгкае — жыць з ілюзіяй, што нехта звонку можа вырашыць беларускае пытанне. Самае простае — весці палітычную барацьбу ў інтэрнэт-прасторы і падчас замежных канферэнцый. Самае бессэнсоўнае — шукаць ворагаў сярод патэнцыяльных паплечнікаў. Усё гэта мы зараз бачым. Усе перасварыліся, ды яшчэ як!**

**Хаця нашы праблемы не разрулiш ні санкцыямі, ні дыялогам. Ні Пазьняк з Саннікавым, ні Мілінкевіч з Някляевым сапраўднага рэцэпта эфектыўнай дапамогі не агучылі. А ён просты. Еўропа, Захад фінансава павінны адгукацца не на словы, а на справы беларускіх партнёраў. І ні ў якім разе не падтрымліваць імітацый! Аніякіх! Ні тых, што ладзіць беларуская ўлада, ні тых, што ладзіць беларуская апазіцыя.**

АКЦЫЯ

## Шлях супраць АЭС

*Галоўным патрабаваннем "Чарнобыльскага Шляху-2013" стане адмена будаўніцтва АЭС.*

*"Рашэнне аб будаўніцтве АЭС "было прынята недэмакратычным шляхам"* — лічаць арганізатары акцыі.

Акрамя спынення будаўніцтва АЭС удзельнікі "Чарнобыльскага Шляху" маюць намер патрабаваць аднаўлення дзейнасці закона аб сацабароне грамадзян, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС, прадастаўлення праўдзівай і поўнай інфармацыі аб наступствах катастрофы, а таксама магчымасці дазіметрычнага кантролю спажывецкіх тавараў і навакольнага асяроддзя.

ЭКОНОМИКА

## Женщины доверяют белорусскому рублю больше, чем мужчины

*В последнее время белорусы стали покупать не только доллары и евро, но и российские рубли.*

"Следует обратить внимание на пусть и медленный, но уверенный рост популярности российского рубля у белорусов, — *говорят специалисты зарегистрированного в Вильнюсе Независимого института социально-экономических и политических исследований.* — За этой динамикой стоит все возрастающая неконкурентоспособность белорусской экономической модели даже по сравнению с моделью российской".

Вера в надежность доллара в одинаковой степени свойственна белорусским мужчинам и женщинам: 54,4% и 53% соответственно. А вот о белорусском рубле такого не скажешь.

"Женщин, доверяющих ему, почти вдвое больше, чем мужчин: 13,2% и 25,1%! — *приводят конкретные цифры в НИСЭПИ.* — И только в старшей возрастной группе (60 лет и старше) уровень доверия к доллару заметно снижается, уступая белорусскому рублю: 34,8% и 46,1% соответственно".

**Марина ВИШНЕВСКАЯ.**

РЭГІЁНЫ

## Добраахвотнікі будуць шукаць грыбнікоў

*Зараз на сайце Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, а таксама абласных упраўленняў МНС размешчана анкета — кожны жадаючы можа запоўніць яе і аўтаматычна стаць валанцёрам-выратавальнікам.*

У міністэрстве паведамляюць: запісваюцца зусім розныя людзі. Ёсць сярод добраахвотнікаў і пенсіянеры, і школьнікі, і інжынеры, і былыя вайскоўцы. Бяруць усіх, бо дапамога валанцёраў не будзе патрабаваць ніякіх спецыяльных навыкаў. Часцей за ўсё людзей не хапае на пошукавых аперацыях, напрыклад, калі ў лесе заблукае грыбнік.

Валанцёраў ужо пачалі навучаць некаторым прафесійным хітрыкам у Гомелі. У перспектыве згуртаванне добраахвотнікаў стане масавым і ахопіць усю краіну.

## 18 тысяч смерцяў

*Амаль 18 тысяч куранят задыхнуліся ў вёсцы Дайнова Лідскага раёна.*

На тое, каб вырасціць адно бройлернае кураня, трэба 45 дзён. Птушкам, што загінулі ў Дайнове, было толькі 30 дзён. З 25 тысяч куранят ацалелі ўсяго 7 тысяч. Як мяркуецца, птушкі задушыліся вуглякіслым газам з-за дрэннай вентыляцыі.

Зараз праверку праводзяць работнікі пракуратуры і Следчага камітэта.

## Цвярозыя ночы ў Гродне

*Міліцыя і гарвыканкам вырашаюць — ці не варта забараніць гандаль півам у начных крамах і клубах горада.*

Многія жыхары Гродна скардзяцца на тое, што каля ўстаноў, дзе ўначы можна набыць піва, заўжды шмат шуму, збіраецца нецвярозая моладзь, небяспечна хадзіць. Праваахоўнікі пацвярджаюць: толькі на адной начной дыскатэцы "Стоп-лайн" за мінулы год здзейснена 26 злачынстваў.

Калі адміністрацыя горада прыслухаецца да меркавання жыхароў і міліцыі, ноччу піва можа знікнуць з прылаўкаў і меню.

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## Рыбалку могуць зрабіць платнай

***Колькі будзе каштаваць фіш-карта, пакуль не вядома.***

Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце выступае за ўвядзенне ў Беларусі абавязковай платы за рыбалку. Пра гэта заявіў намеснік начальніка інспекцыі **Аляксандр Дунькові**ч.

Паводле яго слоў, за невялікую плату мэтазгодна прадугледзець членскі білет рыбалова-аматара або так званую фіш-карту. Як заявіў Дунькові ч, ініцыяваць нававядзенне павінна Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання.

*"У многіх еўрапейскіх дзяржавах гэта цывілізаваны спосаб ўвесці нейкую мізэрную плату і акумуляваць грошы на тое, каб падтрымаць вадаёмы ў належным стане, у тым ліку забяспечыць іх зарыбленне, ахову і добраўпарадкаванне",* — цытуе БелаПАН Дунькові ча.

Паводле яго слоў, на карысць новаўвядзення кажа таксама папулярнасць аматарскай лоўлі рыбы ў беларускіх вадаёмах. *"Бо на сёння нашы вадаёмы не настолькі багатыя рыбай, каб вырашыць харчовую праблему, колькі яны прываблівыя ў плане арганізацыі адпачынку",* — адзначыў Дунькові ч.

Што тычыцца кантролю за спагнаннем платы, то, на яго думку, няма неабходнасці кантраляваць кожнага рыбалова-аматара. "*Больш за 90% насельніцтва Беларусі — добрапрыстойныя і законапаслухмяныя людзі",* — падкрэсліў ён.



НЕ ПРАПУСЦІЦЕ!

# «Казачнік» Сяргей Філімонаў

*Разнастайных твораў мастацтва — ад кніжак да фільмаў — сёння процьма. Глядзі, чытай, слухай — не хачу! Доступ просты і вольны — у тым самым інтэрнэце за пару клікаў "мышкай". Як зрабіць слушны выбар, не губляць час на "культур-мультур" і быць у курсе ўсяго самага значнага-цікавага?*

Шмат хто з беларусаў на гэты конт раіцца з Сяргеем Філімонавым, вядучым перадачы "Відзьмо-невідзьмо" — то бок глядзіць яе штотыдзень. Голасам гэткага казачніка ён прадстаўляе свой дасціпны аўтарскі агляд актуальных міжнародных культурніцкіх падзей.

"Відзьмо-невідзьмо" спачатку выходзіла на БТ, дзе была лідарскай перадачай паводле глядацкіх рэйтынгаў, потым перабралася на СТБ, дзе таксама была папулярнай.

Цяпер, у свой юбілейны 20-ы сезон (хіба "Калыханка" толькі даўжэй ідзе), культавая праграма, што ўяўляе з сябе інфармацыйна-забаўляльны агляд асноўных падзей сусветнай індустрыі забаў і відовішчаў, выходзіць на тэлеканале "Белсат".

Эфір — па суботах у 20.30 (паўторы — у нядзелю і панядзелак). Усе перадачы выстаўляюцца архівам на сайце тэлеканала belsat.eu, а таксама на http://vimeo.com/user6407552.

"Мне цікава, што адбываецца з культурамі Усходу, Поўначы, Поўдня, а не толькі Захаду, мяне захапляе музыка, кіно, творчасць, увогуле мне падабаецца "амерыканшчына", "афраканшчына" ды "японшчына"... Але здзіўляюць дуркаватыя загады не паказваць на Беларускім тэлебачанні пра "розную амерыканшчыну", пра Захад, пра "чужую" культуру... Пасля завяршэння супрацоўніцтва з каналам Сталічнага тэлебачання мы адпачывалі цэлы год. І цягам усяго гэтага часу не сціхала плынь мэйлаў ды лістоў ад гледачоў. Адшукаліся актыўныя добраахвотнікі сярод аматараў нашай праграмы, якія пісалі лісты падтрымкі нават у міністэрствы і на розныя тэлеканалы. Дзякуй ім! Але, бачыце, думкі людзей аніяк не паўплывалі на сітуацыю", — распавядае Філімонаў.

І адзначае творчую атмасферу на "Белсаце": "Гэта бачна пры сустрэчах з журналістамі канала, бачна ў эфіры. На мінскіх тэлеканалах, на жаль, людзі "творчай пароды" даўно знішчаны з экрана".

Што тычыцца беларускай мовы "Відзьмо-невідзьмо", якая ў тым ліку зрабіла перадачу на дзяржаўным тэлебачанні "разынкавай", то пілотнае выданне ў 1992 годзе было падрыхтавана па-руску: "Але потым кіраўнік рэдакцыі Пятро Каваленка перакнаў працягваць на беларускай. Па-першае, мне гэта проста спадабалася, аніякага фанатызму ні з якім (правым ці левым) зместам не было. Па-другое, мы адразу выбіліся з "шэрых шэрагаў" БТ (на падобныя тэмы ў 1993—1997 гадах выходзіла ажно 10—15 цыклавых праграм толькі на адным канале). Ды людзі аддалі нам пальму першынства. У 2000-м нават газета "Советская Белоруссия" паставіла нас на першы радок у сваім тэлерэйтынгу".

Што з беларускага мастацтва магло б апынуцца ў перадачы?

"Што маглі б паказаць? Ды ўсё! У мяне ёсць прынцып: калі бярэшся за вытворчасць, дык трэба выканаць найлепшым чынам. Каб не было сонна, сумна, нудна... Каб было разнастайна. Але ў нас ёсць і такі прынцып: не забірай чужога хлеба. У Беларусі ёсць шэраг адмыслоўцаў, якія спецыялізуюцца па тэме "беларускае мастацтва". І яны зробяць падобную працу лепш за наш калектыў. Проста з тае прычыны, што мы — "міжнароднікі", — кажа Сяргей Філімонаў.



На яго думку, у Беларусі ніякага шоу-бізнесу няма, але выдатных аўтараў, музыкантаў, літаратараў шмат. "А вось пералічваць нікога не буду. Вы што, хочаце мяне пасварыць з тымі, каго не пералічу?" — жартуе тэлевядучы.

Што для аўтара "Відзьмо-невідзьмо" галоўнае пры стварэнні перадачы?

"Зацікаўленасць тым, пра што ідзе гаворка. Ці прышпільнасць матэрыялу. А ў сэнсе выніку — медытатыўнасць канчатковага прадукту. Атрымліваецца не заўжды, але..." — дзеліцца Філімонаў.

За 20 гадоў існавання канцэпцыя "Відзьмо-невідзьмо" змянялася, вагалася шмат разоў, разважае Сяргей Філімонаў: "І ў бок культурніцкіх навін з усяго свету, і ў бок віктарын з прызамі, і ў бок кіно, і ў бок музыкі, і ў бок аўтарскіх аглядаў. Але ж заўсёды, якая б канцэпцыя ні была, яна адрознівалася спробай выхаваць у гледача пэўны ўзровень густу ды самастойнасць у справе вызначэння сваіх культурных прыярытэтаў. Здаецца, гэта варта рабіць і далей".

**Артур НЯМЦОЎ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
12 КРАСАВІКА 2013 г.

ВЗГЛЯД СО СТОРОНЫ

# Памятник Алексию II: *искусство, вера, пропаганда?*

*Несколько дней назад, аккурат на Благовещение, в Витебске у стен Свято-Успенского кафедрального собора открыли памятник Патриарху Алексию II. Это уже второй памятник Патриарху Московскому и всея Руси в Беларуси. Первый был установлен всего полгода назад в Минске — тоже у стен церкви, у Всехсвятского храма столицы.*

*Конечно, памятники — произведения искусства. А памятник святейшему служителю церкви, по-моему, — вообще сугубо дело православной церкви. Но в торжествах в обоих случаях участвовало высокое белорусское чиновничество и государственное телевидение. Поэтому — и стоит ли закрывать на это глаза? — след мощной монументальной пропаганды соседнего государства здесь тоже налицо. А пропаганда все-таки — не вера, пропаганда — машина психологического воздействия на человека. Чем она откликнется в реальной жизни нашей страны? Каковы плюсы, каковы минусы ее воздействия?*

БЛИЦ

### Алесь Пашкевич, *кандидат исторических наук, редактор журнала “Arche”:*

— Установка памятника Алексию II — конъюнктурная акция. Она отлично вписывается в нынешнюю государственную идеологию Беларуси. Впрочем, когда памятник ставят на частные пожертвования, как нынешний в Витебске, то что ж... Пусть стоит, убирать, как говорится, не будем. Но сказать, что мне это очень нравится, то — нет.

### Руслан Вашкевич, *художник:*

— Для чиновников установка этого памятника — акт пропаганды. Для художника и архитектора — заработок. Проявить себя творчески на таком заказе? Сомневаюсь, что это возможно. Памятник Алексию II, конечно, больше политический акт, нежели художественный или религиозный. Да, я человек верующий, хотя и, считаю, маловерующий и путаный, как большинство. Но все-таки надо искать в истории своих, белорусских святых. А вот — не до этого. Национальная идея в стране не заявлена. Мне кажется, в теперешней картине абсурда это событие только добавляет неразберихи.

### Нина Стужинская, *кандидат исторических наук:*

— По-моему, в очередной установке памятника московскому патриарху явно просматривается восточный политический вектор наших властей. И на данном этапе это не способствует укреплению национальной идентичности, дезориентирует в нелегком выборе духовных ценностей. У меня к религии отношение двойственное. Я верю в Высший разум и Небесного Покровителя. И вижу, что земные институты, которые берут на себя право определять отношения верующих с Богом, очень заигрались в политику. Трезвомыслящим православным это очевидно, как и коммерциализация церкви в целом. При всем уважении к главе русской православной церкви, почившему в бозе, в этой акции я вижу не столько дань памяти и почитания, сколько очередной наш глубокий поклон восточному соседу.

### Борис Луценко, *режиссер, народный артист:*

— Понимаю каверзность вашего вопроса и вот что скажу. Только церковь способна хоть как-то изменить нас в лучшую сторону. Сделать человека человеком. Я с удовольствием поеду при случае в Витебск и лично посмотрю на памятник Алексию II. Обсуждать его даже как-то неудобно. Церковь прошла все круги ада при Советской власти, и судить ее я не имею права.

### Надежда Высоцкая, *доктор искусствоведения, профессор:*

— Любой памятник, любая скульптура — во все времена во всех государствах — это всегда пропаганда. Конечно. И не надо стесняться об этом вслух говорить. Два памятника Алексию II установлены в Беларуси во имя усиления православия.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## *Кому из знаменитых белорусов поставлены памятники за рубежом*




**Франциск Скорина** — Прага, Вильнюс, Калининград

**Адам Мицкевич** — Санкт-Петербург, Краков, Познань, Варшава, Вильнюс, Львов, Париж (по некоторым данным, поэт удостоен порядка 40 памятников по всему миру).

**Янка Купала** — Монро — на фото (пригород Нью-Йорка, США), Москва. Вильнюс, Рига (мемориальные доски).

**Максим Богданович** — Ярославль, Мисхор, Ялта.

**Франтишек Богушевич** — Вильнюс (мемориальная доска).

**Владимир Короткевич** — Киев.

**Тадеуш Костюшко** — Вашингтон, Бостон, Чикаго, Филадельфия, Вестпоинт, Санкт-Петербург.

**Игнатий Домейко** — Сантьяго (Чили).

**Ян Скрыган** — Кивиыли (Эстония, мемориальная доска).

## *Кому поставят памятник в Минске в ближайшем будущем?*

По некоторым данным, прошлым летом Мингорисполком рассматривал вопрос об установке памятников следующим историческим персонам:

**Петру Машерову** — к 100-летию со дня рождения, 2018 год, место установки — в районе гостиницы “Планета”;

**Александру Невскому** — 2013 год, место установки — Военное кладбище;

**Всеславу Чародею** — срок реализации не определен, место установки — предположительно спуск с Верхнего города;

**Глебу Менскому** — срок реализации не определен, место установки — предположительно Троицкая гора.

### КСТАТИ

По словам министра культуры Беларуси **Бориса Светлова**, продолжается работа над созданием памятника общественному деятелю и просветителю, поэту, драматургу Симеону Полоцкому в Москве, а также народному артисту СССР, основателю легендарного вокально-инструментального ансамбля “Песняры” **Владимиру Мулявину** в Екатеринбурге.

**Елена МОЛОЧКО.**

**P.S.** А когда же появится памятник Василю Быкову? Да и улицы в честь великого белорусского писателя до сих пор нет ни в Минске, ни в других городах. Наши власти поспешили увековечить того же Алексия II, не думая о тех, кто здесь жил, трудился и прославлял нашу белорусскую землю.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Миллиардер МАЗЕПИН:*

# Связан с Беларусью родителями, а не бизнесом

*С начала года известного российского бизнесмена Дмитрия Мазепина активно связывают с Беларусью. Сначала ему прочили пост вице-премьера страны, а затем и вовсе назвали “кошельком президента Лукашенко”. Уроженец Минска, который через неделю отпразднует 45-летие, в последнее время не давал никаких интервью. Для TUT.BY председатель совета директоров ОАО “ОХК “УРАЛХИМ” Дмитрий Мазепин сделал небольшое исключение, передав ответы на вопросы через пресс-службу.*

**— Есть ли у вас белорусское гражданство?**

— Я родился в Минске, по национальности являюсь белорусом и до 1986 года проживал в Беларуси. После окончания Минского суворовского училища переехал в Россию и с тех пор проживаю и работаю здесь. После распада Советского Союза получил гражданство Российской Федерации, гражданства никакой другой страны у меня нет и не было. В России также живет моя семья, мои дети.

**— Как часто вы бываете в Беларуси и по каким вопросам?**

— В Минске в настоящее время проживают мои родители. Поэтому я регулярно бываю в Беларуси по личным вопросам, которые никак не связаны с бизнесом.

**— Правда ли то, что пишут о возможном назначении вас в правительство Беларуси?**

— Информация о моем возможном назначении в правительство Беларуси не соответствует действительности. Я занимаюсь бизнесом и живу в России, и в будущем я не планирую менять ни род своих занятий, ни место проживания.

**— Как вы можете прокомментировать распространяемую информацию о том, что вы якобы являетесь формальным распорядителем большой части активов белорусской элиты на Кипре, лично близки к Лукашенко и сейчас пытаетесь перевести эти средства из Кипра в Латвию?**

— Я не знаком лично с Александром Григорьевичем Лукашенко. Вся эта информация абсолютно недостоверна и не соответствует действительности. По-видимому, распространение этой информации явилось результатом целенаправленного вброса со стороны моих конкурентов по бизнесу, преследующих какие-то свои цели.

Вместе с тем я хотел бы подчеркнуть, что как белорус по национальности и как человек, связанный с Беларусью личными связями, я всегда был небезразличен к тому, что здесь происходит. Хотя я живу и работаю в России, я стараюсь по мере сил оказывать помощь некоторым белорусским проектам и инициативам. Я лично курирую реализуемые в Беларуси социальные проекты, которые поддерживает компания “УРАЛХИМ”, в частности спортивные соревнования Белорусской федерации плавания.



### Из личного дела

*Дмитрий Мазепин родился 18 апреля 1968 года в Минске, в 1986 году окончил Минское суворовское военное училище. Позже учился на военного переводчика. В 1986—1988 годах прошел срочную службу в Афганистане, был переводчиком. Окончив в 1992 году экономический факультет МГИМО, работал в финансовой сфере России и Беларуси (филиал “Беларусбанка”). С середины 1990-х годов занимал высшие руководящие посты в государственных структурах и крупных компаниях: “Тюменская нефтяная компания”, “Нижневартовскнефтегаз”, “Угольная компания “Кузбассуголь”, Российском фонде федерального имущества. С 2002-го по 2003 год — президент холдинга “Сибур”. После ухода из “Сибура” Мазепин решил заняться бизнесом в химической отрасли. В 2004 году начал скупать акции российских химкомбинатов, в 2007 году объединил их в холдинг “УРАЛХИМ”. С 2007 года — председатель совета директоров компании “УРАЛХИМ”. Журнал Forbes (российская версия) оценил состояние Мазепина в 3,2 млрд долларов, что соответствует 56-му месту в списке богатейших бизнесменов России. Вместе с Олегом Дерипаской входит в Высший наблюдательный совет Всероссийской федерации плавания.*

**Александр ЗАЯЦ.**

ДИПКУРЬЕР

# Почему белорусам аннулируют шенгенские визы?

*В последнее время в белорусское диппредставительство в Белостоке стали активно обращаться граждане Беларуси с просьбой помочь разобраться с ситуациями, связанными с аннулированием польскими властями виз на границе, а также арестами и закрытием для них въезда в страны Шенгенского соглашения.*



“Большая часть задержаний, а также вынесенных судебными органами приговоров в отношении наших граждан связана с нецелевым использованием виз или получением польских национальных и шенгенских виз обманным путем, — *прокомментировал ситуацию belta.by генеральный консул Республики Беларусь в Белостоке **Александр Беребеня** (на фото).* — Граждане не осознают в полной мере, что, купив на улице приглашение для оформления визы, можно уже на границе попасть под арест. Ведь, предоставив в диппредставительстве Республики Польша документы для оформления визы, например, с целью трудоустройства, можно получить только так называемую трудовую визу и посещать соседнюю страну с иными целями на основании такой визы запрещено. То есть за покупками с такой визой ехать нельзя. То же касается частных или деловых приглашений: здесь следовало бы обращать внимание на географическое расположение приглашающего лица. Очень часто белорусы, оформив визы на основании приглашений из далеких от приграничья регионов, никогда не доезжают до тех городов и сел. Рассчитывая, судя по всему, что польская сторона это не проверит и при очередном паспортном оформлении на границе не задержит”.

Более того, задержание или штраф может произойти в отношении белорусских граждан, посещавших Польшу на основании таких купленных приглашений даже несколько лет назад: в судах до сих пор рассматриваются дела прошлых лет.

По словам Александра Беребени, в генконсульство стали поступать также сообщения из польских компетентных служб о страховых полисах с исправленными в них датами. Появляются также проблемы с чеками системы возврата налога Tax Free, которые наши соотечественники в очереди на границе за определенное вознаграждение передают третьим лицам для нелегального оформления. Однако не все отдают себе отчет в том, что такого рода нарушения квалифицируются как подделка документов и относятся к категории уголовных преступлений.



### КСТАТИ

**Нецелевое использование виз, подделка документов трактуется законодательством Республики Польша как попытка незаконного пересечения границы, а также предоставление заведомо ложной информации должностным лицам, в данном случае сотрудникам пограничной службы и консулам Республики Польша. Это может обернуться судебным разбирательством даже без участия гражданина Беларуси и наказанием вплоть до лишения свободы до трех лет и внесением в базу лиц, въезд которым в страны Шенгенского соглашения запрещен.**

ЧУЛІ?

## *Усяго 125 мінчан аплачваюць электраэнергію па тарыфах, якія залежаць ад часу сутак*

*Спецыялісты адзначаюць, што дыферэнцыраваная аплата электраэнергіі ў залежнасці ад яе спажывання ў розны час сутак дазваляе эканоміць грошы за аказанне жыллёва-камунальных паслуг.*

Тарыф спажывання электраэнергіі для абанентаў, абсталяваных электрычнымі плітамі, у будні да 17.00 і пасля 22.00, а таксама на працягу ўсіх выхадных усталяваны ніжэй ільготнага аднаставачнага тарыфу для гэтай катэгорыі абанентаў. Прыблізна столькі ж, паведамляе belta.by, плацяць за электраэнергію ў залежнасці ад спажывання ў розны час сутак і абаненты без электрычных пліт. З 17.00 да 22.00 у будні тарыф вышэй, чым з прымяненнем павышальнага каэфіцыента, але ніжэй поўнага пакрыцця выдаткаў на электраэнергію.

ДАВЕДАЧНАЕ БЮРО СПАЖЫЎЦОЎ

*На пытанні чытачоў “Народнай Волі” адказвае намеснік старшыні грамадскага аб’яднання “Беларускае таварыства абароны спажыўцоў” **Васіль ВАЛАСЮК**.*

### Ці трэба плаціць за дыягностыку тавара па гарантыі?

*Пасля двух месяцаў эксплуатацыі відэарэгістратара ён стаў самастойна перазагружацца. Аддаў на рамонт па гарантыі. Ці могуць з мяне патрабаваць заплаціць за дыягностыку?*

**Валянцін КУЛЬБАКОЎ, Мінск.**

— Не. Рамонт па гарантыі аплачваецца вытворцам. Калі пасля рамонту ўзнікне дэфект, тавар можна замяніць ці вярнуць грошы.

### Сэрвісны цэнтр згубіў гарантыйную кніжку

*Здаў ноўтбук па гарантыі, але ў сэрвісным цэнтры згубілі гарантыйную кніжку. Што зараз рабіць?*

**Аляксей САРАЧУКОЎ, Гомель**

— Той самы сэрвісны цэнтр павінен аднавіць гарантыйную кніжку альбо даць вам іншыя прававыя гарантыі. Усе гарантыі павінны быць афармлены дакументальна.

### Дзе можна правесці складаную тэхнічную экспертызу?

*У мяне згарэла аўтамагнітола. У гарантыі адмовілі: маўляў, я сам няправільна падключаў плюс і мінус. Але магнітафон працаваў больш за месяц, а ўжо пасля рэзка задыміўся. Што цяпер рабіць? Кажуць, што адрамантаваць яго практычна немагчыма. Прасцей новую магнітолу купіць...*

**Сцяпан, Валожын.**

— Моцна не засмучайцеся. Бярыце заключэнне майстэрні і ідзіце да спецыялістаў, якія праводзяць складаныя тэхнічныя экспертызы. У Мінску такія экспертызы праводзяць па адрасы: вуліца Геалагічная, 117. Там дакладна вам скажуць, чаму згарэла аўтамагнітола.

### Калі зламаўся новы ноўтбук...

*Купіў ноўтбук, гарантыя — год. Ён адпрацаваў тры тыдні і зламаўся. Сябры кажуць, што “паляцеў” працэсар. Ці магу я яго абмяняць на новы? На што спасылацца, калі гэта можна зрабіць?*

**Аляксандр КОРАБАЎ, Віцебскі раён.**

— Нельга. Ноўтбук можна абмяняць, калі ёсць істотны недахоп паводле заключэння майстэрні.

### Акцыя скончылася, цэны засталіся старымі. Што рабіць?

*У магазіне на паліцы з дзіцячым харчаваннем знайшла абвестку аб акцыі. Узяла некалькі ўпаковак з харчаваннем, але на касе налічылі іншую суму. Растлумачылі, што, маўляў, акцыя, напэўна, ужо скончылася, таму каса прабівае іншыя лічбы, а абвестку зняць забыліся. Пытанне: па якім кошце магазін павінен быў прадаць дзіцячае харчаванне?*

**Зоя КЛІМАВА, Смаргонь.**

— Па тым, які ўбачыў пакупнік. Вы маглі напісаць свае патрабаванні ў Кнігу скаргаў і прапаноў. І дачакацца пасля гэтага адказу.

### У чайніку дрэнна ўключаецца кнопка...

*Купіла электрачайнік, у яго дрэнна ўключаецца кнопка падагрэву. Даводзіцца некалькі разоў націскаць. Ці абавязаны мне яго замяніць альбо вярнуць грошы?*

**Аліна МІХАЛЁНАК, Маладзечна.**

— Абавязаны адрамантаваць на працягу 14 дзён. Калі дэфект праявіцца паўторна, чайнік можна абмяняць.

### Прадавец абяцаў адно, а на справе выйшла па-іншаму

*Набыла месяц таму скураную сумку. Прадавец запэўніваў, што якасць вельмі добрая, скура натуральная. Але прайшоў месяц, і скура пачала трэскацца. Ці могуць мне адмовіць у вяртанні грошай?*

**Святлана, Вілейка.**

— Не. Ваша права забраць грошы за няякасны тавар. Калі ўзнікнуць рознагалоссі, здайце тавар на экспертызу. Усе выдаткі аплаціць прадавец.

### Узгадняйце з мужам падарункі

*Муж купіў патэльню з керамічным пакрыццём. Мне яна не спадабалася, хацелі вярнуць тавар назад і атрымаць грошы. У магазіне нам адмовілі. Сказалі, што патэльня звароту і абмену не падлягае. Ці так гэта?*

**Людміла МІСЬКО, Орша.**

— Так, прадаўцы ўсё сказалі вам правільна.

### Яшчэ раз аб гарантыйным рамонце

*Колькі разоў можна здаваць тавар на гарантыйны рамонт?*

**Сяргей ВЯЛІЧКА, Мінск.**

— Адзін. Калі будзе паўторны дэфект, то можаце атрымаць грошы ці замяніць тавар.

### Цацка не спадабалася

*Я для дзіцяці купіла гульню ў магазіне, але яна яму не спадабалася. Вырашыла на наступны дзень вярнуць яе, але мне адмовілі, бо няма цалафанавай упакоўкі. Хто мае рацыю?*

**Таццяна ВАСІЛЕЎСКАЯ, Магілёў.**

— На працягу 14 дзён тавар можна абмяняць ці вярнуць, нават калі ўпакоўка нейкім чынам парушана.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

